№ 97 Ausgabe B.

# ГОМАН

Цэна с перэсылкай і дастаукай да хаты: на 1 год—4 м. 80 фэн., на ½ году—2 м. 40 ф., на 3 месяцы—1 м. 20 ф., на 1 мес.—40 фэн.

Беларуская Віленская часопісь выходзіць два разы у тыдзень: у аўторкі і пятніцы.

Адрэс рэдакції: Вільня, Завальная 7.
Адрэс адміністрацыі і экспэдыцыі: М. Стэфанская 23.

Цэна абвестак: на 4-ай старане за радок дробнымі літэрамі—25 фэніг.; дробные абвесткі—па 5 фэн за слова. Абвесткі аб сьмерці—60 фэн. за лінейку дробн. друкам.

№ 97 (189). Год II. Вільня, 4 сьнежня 1917 г. Цэна 5 фэн. (3 кап.).

# Офіцыяльнае апавешчэньне.

26 лістапада народны камісар дзеля ваенных і марскіх спраў і глаўнакамандуючый расейскай арміей п. Крыленко праз парлямэнтара запытаўся, чы нямецкій граўнакамандучый згодзіцца пачаць перэгаворы аб замірэньні. Ешчэ ў той жэ дзень глаўнакамандуючый на усходзі прынц Леопольд Баварскі адказаў, што ён упаўнамочэн і гатоў вясьці з расейскай глаўнай камандай перэгаворы аб замірэньні. Пасьля с парлямэнтарам быў назначэн час і мейсцо, дзе павінны спаткацца паўнамочная расейская камісія с паўнамочнай камісіей другой стараны. Расейская камісія прыбыла у назначэнае мейсцо і зара паехала ў место, вызначэнае дзеля перегавораў. Іх ждуць там на 3 сьнежня ў палудзень.

## 3 сьнежня.

Заходні тэатр:

*Фронт Рупрэхта Баварскаго:* Ведзёная з вялікімі сіламі англіцкая атака наабапол Пашэндаля адбіта. У вечары пасьля сільнай падгатоўкі агнём ворагі атакавалі між Эншi і Бурлён. У вострай бітве на штыкі ворагі адкінуты.

Ад 30 лістапада ўзяты 6.000 паловных і 100 гармат.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). Новые ўдачы падводных лодак у Сяродзэмным моры: 11 параходаў ёмкасьцю больш за 34.000 тонн.

ШТОКГОЛЬМ. У Архангельску большэвікі не здалелі ўмацавацца. Там англічане пануюць больш, чым калі. Яны забралі ў свае рукі тэлеграф без дроту.

ШТОКГОЛЬМ. Апублікованые тайные дакументы—ешчэ не найважнейшые. Найважнейшые будуць надрукованы у асобнай „оранжэвай“ кнізе.

ШТОКГОЛЬМ. У швэдзкім пасольстве ў Пецярбузе пад маршалкоўствам швэдзкаго пасла адбылася нарада прэдстаўнікоў нэутральных гасударств аб мірным прэдлажэньні Троцкаго. Пастаноўлено даць супольне адказ у ветлай форме, не прызнаваючы аканчацельна ураду народных камісараў. Гэта лічаць за дыплёматычную і моральную пабеду Троцкаго. Думаюць, што Гішпанія мае цяпер грунт дзеля ўдачнаго пасрэдніцтва.

ВАШЫНГТОН. (Рэўтэр). Вільсон паслаў румынскаму каралю гэткую тэлеграму:

„Народ Злучэных Штатаў с пачуцьцём гарачаго спагаду і пашаны сачыў за тым, як румынскі народ і кароль бароўся дзеля абароны, нацыональнай незалежнасьці і волі ад панаваньня нямецкаго мілітарызму. Урад Злучэных Штатаў пастанавіў далей паддзержываць Румынію ў яе барацьбе. Разам с тым я хацеў бы даць Вашаму Велічэству заверэньне, што і пасьля вайны Злучэные Штаты будуць шырока паддзержываць Румынію і пры аканчацельных мірных перэгаворах Амэрыка зробіць усё патрэбнае, каб забясьпечыць Румыніі магчымасьць разівіцца, як вольнай і незалежнай націі.“

ЖЭНЕВА. (В.Т.Б.) Паводлуг вестак парыжскай прэссы парыжская конфэрэнцыя разгледала і расейскае пытаньне. Казалі аб патрэбе высылкі саюзнікамі ноты ці адозвы да насяленьня Расеі. Газэты асьцерагаюць перад разрывам дыплёматычных зносін з расейскім народам, баламучэным большэвікамі. „Radical“ пытаецца, што заходніе дзержавы маняцца ўчыніць дзеля забаспечэньня 40 мільярдаў, якіе ім вінавата Расея?

БЭРН. «Progres de Lion» пішэ аб праверцы рэкрутоў 1919 году і аб праверцы неслужачых асоб с прызывоў 1913—1918 гадоў.

ПЕЦЯРБУРГ. (Рэўтэр). Апавешчэньне большэвікоў загадывае роспуск пецярбурскаго местоваго самаўпраўленьня і назначае новые выбары на 9 сьнежня.

БЭРН. Італьянская граніца ў нядзелю паабедзі зачынена ізноў.

АМСТЭРДАМ. У гутарцы с прэдстаўнікам «Petit Parisien» Ллейд Джордж адзначыў сур'ёзнасць цяперашняго палажэньня: «Мы маем людзей, снарады, экономічные і фінансовые запасы і сьвядомасьць, што змагаемся дзеля праўды. Мы павінны дайсьці еднасьці ў кіраўніцтве і лічыцца с фактамі. Калі мы не змарнуем часу і пастановілі выіграць вайну, дык і выіграем яе. Мы павінны захаваць цярплівасьць, вынасьлівасць і станоўчасьць, — тады дойдзем пабеды».

КОПЭНГАГА. С прычыны таго, што англіцкі пасол Буканэн не адказаў на пісьмо Троцкаго, жадаўшаго вызваленьня арэштаваных у Англіі расейскіх рэволюцыонероў, — Троцкій загадаў не даваць англіцкім падданым пазваленьня выежджаць з Расеі.

БЭРН. ((В.Т.Б.). Францускі міністэр страваваньня заявіў, што трэба ешчэ больш арганізаваць раздзел спажыўных прадуктаў, оо палажэньне вельмі сур'ёзнае.

## На парозі да міра.

У ноч з 29 на 30 верасьня тэлеграф прынёс нам незвычайна важную вестку: нямецкі канцлер у сваей прамове ў Рэйхстагу заявіў, што новы рэволюцыйны расейскі урад паслаў да урадаў ваюючых старон тэлеграму, сулячы замірэньне і мір. Мала таго: той-жэ канцлер у сваей далейшай прамове высказаў сваю гатоўнасць прыступіць да перагавораў аб міры, калі расейскі урад пршле сваіх даверэных людзей.

Гэта—першы праўдзівы сур'езны крок да міра, і мы усім раздзеляем надзею канцлера, што расейскае прэдлажэньне хутка прыме конкрэтную форму і прынясе нам гэтак доўга жданы мір.

Які-ж будзе гэты мір — што прынясе ён нам, беларусам, і нашаму Краю, чым адплаціць за пралітую кроў нашаго народу, за ўсе ціжары страшэннай вайны?

Вось першае пытаньне, якое узнімаецца ў душы кожнаго жыхара нашай зямлі—як толькі пачуцьцё радасьці ад спадзеванаго канца ўсіх бед пазваляе спакойна сабраць думкі.—І на яго даў часцю адказ нямецкі канцлер у тэй же прамове сваей аб міры. Ен сказаў:

„Што датычэ зямель, якіе знаходзіліся раней пад царскай уласьцю: Польшчы, **Літвы** і Курляндзіі,—дык мы шануем **права іх народаў пастанавіць аб сваей долі.** Мы спадзяемся, што кожын з іх здабудзе для сябе такі дзержаўны лад, каторы будзе адпаведаць іх адносінам і кірунку іх культуры. Наагул-жэ справа гэтая ешчэ вісіць у паветру. Весткі, каторые недаўна разыйшліся ў газэтах і апавешчалі адзін с пунктаў гэтай справы аканчацельна развязаным, нязгодлівы с сапраўдным палажэньнем“.

Гэтые словы ясна паказваюць, што Нямеччына прызнае права на самаазначэньне «Літвы», — а пад гэтым словам, як вядома, увесь сьвет разумее літоўска-беларускі край, станавіўшый некалі незалежнае Вялікае Княства Літоўскае. І мы, беларусы, каторые некалі станавілі набольш чысьлены элемэнт „Літоўскаго“ гасударства, дзяды і прадзяды каторых тварылі супольнае дзержаўнае літоўска-

